# НАША СВАБОДА

№16(103) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

9 ЛЮТАГА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## «Наш чалавек» у Тэль-Авіве

**Міхась КАРПОВІЧ**

На парламенцкіх выбарах, што адбыліся ў Ізраілі 6 лютага, перамог прыхільнік «жорсткай лініі», лідэр правай партыі «Лікуд» Арыэль Шарон. Ён выйшаў наперад са значным адрывам у 25% і цяпер стаў прэм'ер-міністрам замест Эхуда Барака.

Лічыцца, што А.Шарон зойме больш жорсткую пазіцыю на перамовах з палестынцамі, у адрозненне ад гатовага да кампрамісаў Э.Барака. У прыватнасці, ён не



згодны аддаваць Палестыне частку Іерусаліма, а таксама хоча захаваць за Ізраілем Галанскія высоты – якія тэрытарыяльна належаць Сірыі.

Дарэчы, стала вядома, 72-гадовы баявы генерал Арыэль Шарон мае і беларускія карані. Ягоныя дзед і бабка родам з Магілёва і Гомеля. Бацькі А.Шарона – Шнееравы — пазнаёміліся і ажаніліся ў Тбілісі, а ў 20-х гадах мінулага стагоддзя з'ехалі ў Сярэднюю Азію, адкуль эмігравалі за мяжу.

Зрэшты, папярэднік Арыэля Шарона на пасадзе прэм'ер-міністра Эхуд Барак таксама мае дачыненне да Беларусі. Афіцыйная біяграфія паведамляе, што нарадзіўся ён у 1942 годзе ў кібуцы Мішмар-Хашарон у сям'і, якая выехала з Заходняй Беларусі. Дарэчы, беларускія карані мела і прэм'ер Голда Меір. ■

## Сярэбраны медаль Сашурына



На чэмпіянаце свету ў славенскім горадзе Паклюка лідэр беларускай зборнай Вадзім Сашурын заваяваў сярэбраны медаль у індывідуальнай мужчынскай гонцы на дваццаць кіламетраў.

Віншуем нашага біятланіста з першай (дай Бог, не апошняй) узнагародай на чэмпіянаце свету.

*Падрабязнасці на стар. 8*



● Святаслаў Тапеха прыехаў абараняць інтарэсы НТВ ад беларускіх «піратаў»

# БТ палюбіла грошы НТВ

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Працягвае разгортвацца канфліктная сітуацыя з трансляваннем беларускай рэкламы на канале НТВ. Як мы ўжо паведамлялі, з 3 лютага гэтага года Беларускае тэлебачанне пачало трансляваць уласную рэкламу на канале, нягледзячы на тое, што не мела на гэта ніякага права.**

Для вырашэння сітуацыі ў Мінск прыляцеў генеральны дырэктар ТАА «Медиа Сервис Арт» Святаслаў Тапеха – ягоная кампанія ўваходзіць у холдынг «Медиа-Мост» і займаецца размяшчэннем рэкламы на НТВ у Беларусі. Учора ён правёў сустрэчу з журналістамі.

Па словах С.Тапехі, беларускі бок у асобе намесніка старшыні Беларускай тэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова павёў сябе абсалютна беспардонна. У канцы снежня мінулага года кампанія НТВ атрымала ліст, які беларускія тэлевізійшчыкі называюць «прапановай аб супрацоўніцтве». «Прапанова» змяшчала інфармацыю наступнага кшталту: Беларускае тэлебачанне хутка пачне перакрываць рэкламныя блокі НТВ сваімі, і таму просіць кампанію своечасова папярэдзіць аб гэтым сваіх рэкламадаўцаў.

Для таго, каб больш дакладна ўявіць сабе праблематыку канфлікта, патрэбныя некаторыя тлумачэнні. Як вядома, у Беларусі апроч свайго Першага – і адзінага – тэлеканала, вядуць вяшчанне яшчэ некалькі расійскіх. Напаўдзяржаўны ОРТ разам з БТ «накрывае» практычна ўсю тэрыторыю Беларусі, больш за 70-працэнтны ахоп мае цалкам дзяржаўны РТР. Праграмы прыватнай кампаніі НТВ могуць прымаць прыкладна 45% беларускіх гледачоў.

Далей. Тэлебачанне – цацка вельмі дарагая. І каб забяспечыць вяшчанне тэлеканала на пэўную тэрыторыю, патрэбныя вялікія грошы. Натуральна, што на паказ БТ грошы ідуць з дзяржаўнай кішэні. Але вось ОРТ і РТР, хоць і належаць іншай дзяржаве, але не плацяць за тое, што іхнія праграмы паказваюць у Беларусі. У якасці «адказнага захаду» Беларусь вырашыла тры гады таму перакрываць маскоўскія рэкламныя блокі сваімі, і такім чынам някепска зарабіўшы на рэкламе, вярнуць патрачаныя грошы. Здаецца, ніхто не быў супраць.

Галоўнае адрозненне НТВ ад іншых расійскіх каналаў – ён сам плаціць за трансляцыю сваіх праграмаў на Беларусь. Як паведаміў учора С.Тапеха, міністэрства сувязі Беларусі штогод атрымоўвала 200.000 долараў за рэтрансляцыю НТВ. Каб кампенсаваць такія выдаткі, было вырашана, што асобная структура «Медиа-Моста» – кампанія «Медиа Сервис Арт» – зоймецца размяшчэннем беларускай рэкламы на НТВ. Прычым, па словах Святаслава Тапехі, беларуская дзяржава таксама атрымоўвала каля 150.000 долараў у год у якасці «камісійных» за сабраную рэкламу. Усяго атрымоўваецца, што Беларусь штогод зараблял на НТВ 350.000 долараў – не вельмі кепскі паказчык.

Як паведаміў С.Тапеха, ягоная кампанія штогод збірала прыкладна па 700.000 долараў на рэкламе ў Беларусі. Такім чынам, не менш за 50% сваіх заробкаў расійская кампанія пакідала ў беларускім бюджэце.

Цяпер жа БТ вырашыла «адхапіць» сабе і гэтыя грошы і стаць практычна манапалістам на рынку тэлевізійнай рэкламы ў Беларусі. Святаслаў Тапеха перакананы, што гэта было зроблена з падачы Ягора Рыбакова. Гэты выхадзец з Магілёва неаднаразова даводзіў, па словах дырэктара «Медиа Сервис Арт», недакладную інфармацыю пра дзейнасць НТВ у Беларусі да найвышэйшага кіраўніцтва краіны. У рэшце рэшт, як паведаміў С.Тапеха, пасля нарады 2 лютага ў адміністрацыі прэзідэнта яе кіраўнік Міхаіл Мясніковіч падпісаў распараджэнне аб пачатку «перакрыцця» рэкламных блокаў на НТВ.

Рашэнне М.Мясніковіча, на якое цяпер спасылаецца кіраўніцтва БТ, парушае некалькі артыкулаў Грамадзянскага кодэкса Беларусі, законы аб абароне аўтарскіх і змежных правоў, а таксама ўмовы кантракта паміж НТВ і міністэрствам сувязі. Паводле кантракта, тэрмін дзеяння якога заканчваецца 31 снежня 2001 года, ніхто не можа ўмешвацца ў перадачу тэлевізійнага сігнала НТВ на тэрыторыю Беларусі. Прадугледжаныя і штрафныя санкцыі – 6.000 расійскіх рублёў (прыкладна 210 долараў) за кожную перакрытую хвіліну. Усяго ў дзень набягае сума ў 25 тысяч долараў. Такім чынам, толькі да сённяшняга дня памер санкцыяў ужо склаў 175.000 долараў.

Але Святаслаў Тапеха паведаміў, што да канца гэтага тыдня і НТВ, і ягоная кампанія будуць рабіць усё магчымае, каб вырашыць канфлікт мірнымі сродкамі. Бо давядзенне справы да суда не палепшыць сітуацыю: магчыма, што калі суд скончыцца, то ўсіх сродкаў міністэрства сувязі, а то і ўсяго беларускага бюджэту, не хопіць, каб пакрыць выдаткі.

Што ж датычыцца пагрозы перапыніць вяшчанне НТВ на Беларусь, то, як паведаміў дырэктар па рэкламе і развіцці кампаніі «Медиа Сервис Арт» Антон Мацієвіч, яна ўтрымлівалася ў лісце гендырэктара НТВ Яўгена Кісялёва да старшыні Беларускай тэлерадыёкампаніі Віктара Чыкіна.

Але, як высветлілася, беларускія тэлевізійшчыкі гэтага не баяцца. С.Тапеха пераказаў эпізод, у якім ішла размова намесніка гендырэктара НТВ Анатоля Герасімава з кіраўніцтвам БТРК. Па ягоных словах, у адказ на магчымую пагрозу адключыць вяшчанне НТВ у Беларусі наша тэлевізійнае начальства адказала: «А калі ласка!». Маўляў, пры дапамозе спадарожнікавых «талерак» заўсёды можна скрасці НТВ-шны сігнал са спадарожніка і працягнуць вяшчанне «сваімі сродкамі», зноў-такі зарабляючы на размяшчэнні рэкламы на НТВ у Беларусі.

У цывілізаваным свеце гэта называецца словам «пірацтва». Трэба разумець, кіраўніцтва БТ сустракаецца з гэтым словам не ўпершыню. ■

## НАВІНЫ

■ **Як стала вядома з нашых крыніцаў, брытанскае міністэрства ўнутраных справаў адмовіла беларускім уладам у выдачы Тамары Віннікавай, былой старшыні Нацыянальнага банка Беларусі.** Як вядома, пасля сваіх уцёкаў з кіпцюроў беларускага КДБ у красавіку 1999 года Т.Віннікава праз некалькі месяцаў апынулася ў Лондане. Усе намаганні беларускага боку вярнуць яе на радзіму дагэтуль аказваюцца марнымі. Вялікабрытанія спасылаецца на адсутнасць двухбаковых дамоваў аб выдачы падазроных. У Пракуратуры Беларусі пацвердзіць гэтую інфармацыю адмовіліся.

■ **Як паведамілі ў Нацыянальным банку Беларусі, на грунце Белбізнесбанка і Беларускага банка развіцця ствараецца новая банкаўская структура.** Называцца яна будзе Беларускі банк развіцця і рэканструкцыі. Ягоны статутны фонд складзе 18 мільярдаў рублёў. Доля дзяржавы ў ім – 90%. Стварэнне новага банка тлумачыцца неабходнасцю крэдытавання «прыярытэтных праектаў».

■ **А.Лукашэнка выдаў указ, паводле якога кіраўнікі ВНУ атрымалі самастойна вызначаць кошты навучання.** Як гаворыцца ва ўказе, яны могуць гэта рабіць «у памеры эканамічна абгрунтаваных выдаткаў, неабходных для падрыхтоўкі спецыялістаў па дадзенай спецыяльнасці».

■ **З 8 лютага ў Мінску ўслед за Магілёвам, Гомелем, Брэстам і шэрагам іншых гарадоў Беларусі абвешчаная эпідэмія грыпу.** Забараняецца праца дзіцячых садкоў і школаў пры наяўнасці парогу захворванняў у 30%. Хворыя на грып з цяжкімі і ўскладненымі формамі будуць шпіталізавацца ў 6-ю клініку.

■ **Паводле старшыні Канстытуцыйнага суда Рыгора Васілевіча, А.Лукашэнка можа быць прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта, бо ачольвае яго на грамадскіх пачатках.** У Канстытуцыі напісана: «прэзідэнт не можа займаць іншыя пасады, атрымоўваць, акрамя заробку, грашовыя ўзнагароды, за выключэннем ганарараў за творы мастацтва, літаратуры і навукі».

■ **На пачатак 2001 года на складах беларускіх прадпрыемстваў запасаў гатовай прадукцыі знаходзілася на 383 мільярды рублёў.** Гэта складае каля 60% аб'ёму вытворчасці цягам месяца. Асабліва багата пралежвае будаўнічых матэрыялаў – 70% ад таго, што вырабляецца за месяц, машынабудавання і металаапрацоўкі – 95%.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.yahoo.com

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1220**

# Няма ратунку ціхім людзям

**Міхал ЗАЛЕСКІ**

**Каторыя лямантуюць наконт добрага і талерантнага народа, не зважаюць на рэчаіснасць. Бо тутэйшыя злодзеі міліцыі спаць не даюць. Хаця кажуць, што ў цёмных закутках імперыялістычных мегаполісаў і какаінавых Калумбіі бывае горай.**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Рэч у тым, што ўсё большая частка грамадзянаў замест таго, каб змагацца за ВНП ці, у горшым выпадку, за справядлівыя выбары, робіць усё, каб патрапіць за краты і там заставацца як мага далей. Судзіць іх не вашаму карэспандэнту, але магу сказаць: гэтыя людзі маглі б працаваць дзеля сябе і сваіх дзяцей. Іх не трэба было б ахоўваць. Ахоўнікаў – карміць і г.д.

Бачыце, якая глыбокая эканамічная тая злачыннасць. Паводле МУС, за мінулы год было ўлічана 135,5 тысяч злачынстваў. Гэта амаль на 4% болей, чым ў 1999 годзе. На кожныя дзве сотні талерантных беларусаў без выняцця немаўлятаў, стогадовых бабак і цяжарных кабетаў атрымалася па тры зафіксаваныя злачынствы. Можна толькі ўяўляць, што робіцца на самай справе.

Дзякуй Богу, забілі крыху меней людзей. Але каб без вайны пайшло гвалтам на той свет 1.186 чалавек, такога не было, мабыць, ні за царом, ні за Пілсудскім.

Моцна білі і паранілі, але забіць ці то не паспелі, ці то не надумалі 2.043 чалавекі. За што, спытаецеся. Было за грошы, а было і за так, а большай часткай добра паддаўшы.

Росквіт парнаграфіі, прастытуцыі і несусветны капіталістычны бардак не змянілі істотна ў нашым краі колькасці згвалтаванняў. Іх было 530. Спецыялісты сцвярджаюць, што скардзіцца толькі кожная дзесятая са згвалтаваных жанчын. То бок сярод нас боўтаецца 5 тысяч беспакаранага свалачча, і яно небяспечнае.

Нашчадкаў Робін Гуда і Ванькі Каіна многа, яны абрабавалі і аблупілі 6,5 тысяч чалавек. То гэтую бяду можна лічыць на грошы. Ды халера іх бяры тыя грошы, але як крыўдна быць абрабаваным. Ці калі што ўкрадуць у цябе.

А кралі ажно 60.833 разы. Адных кватэраў абакралі 20 тысяч. Што там той Аціла з ягонымі гунамі супраць нашых працавітых і талерантных злодзееў. А можа гэта прыезджыя? Пра тое МУС не паведамляе. І правільна робіць. Бо нашых гіцляў едзе ва ўсе бакі не меней, чым адтуль сюды.

Паскардзіліся людзі на 832 хабарнікаў. Давайце паспачуваем гэтым няшчасным. Бо злавіцца на атрыманні хабару тутэйшаму гэтак жа проста, як атрымаць метэарытам па галаве. Але ж скардзяцца і ловяць кагось. Менш трэба чыноўнікам даваць правоў на выдачы правоў на права рабіць тое, што і без таго ўвесь свет робіць, і хабарнікаў паменяе. Альбо ўвесцi хабарніцтва ў шэраг ліцэнзаваных відаў дзейнасці.

Махляроў зафіксаваная адна дывізія – 7.251 чалавек. Гэтыя хоць не б'юцца. Але ж і ад іх карысці няма. Дураць нас, даверлівых. Ці прагавітых. Бо таго, хто на халяву не падкі, не надта вакол пальца абвядзеш.

Зафіксавана 3.811 злачынстваў з наркотыкамі. Гэта не менш страшна, чым забойствы. Гэта проста жах нейкі. Жах у транзітнай бязмежнай зоне. Вялікі шлях з Пянджа на Буг. Вялікія грошы нехта зарабляе на наркотыках, каб ён сам імі абжэрся.

На гэтым фоне 6.547 айчынных хуліганаў выглядалі б анёламі, каб не былі звычайнымі п'янымі дурнямі. А гарэлка, як і наркотыкі, замяняе людзям капіталістычных краінаў сапраўднае шчасце. Гэтак пісала газета «Правда» ў 1956, 1973, 1981 і іншых гадах. Можа, памылялася?

Злавілі летась 56 тысяч злодзееў і 12.000 зладзеяк. Кожны дзевяты з іх быў яшчэ непаўналетні, але ўжо паспеў нашкодзіць. Палавіна злодзееў і зладзеяк не вучылася і не працавала, а кожны сёмы быў п'яны і сваволіў. Тым не меней калектывісцкі дух часоў СССР вяртаецца ў нашую краіну індывідуалістаў. Кожнае шостае злачынства здзейсненае групай асобаў.

З тых, што злавілі, засудзілі 89%.

Як падумаеш пра ўсё гэтае, хоць ты плач. Але плакаць не трэба. Трэба чакаць ад кандыдатаў на прэзідэнта адказаў на пытанне: «Што іх міласці будуць рабіць з МУС і злачыннасцю». Дачакаешся, як ад той гогалеўскай птушкі-тройкі. ■

# ЗША не хочуць беларускай сталі

**Кірэй МАНУЙЛА**

Міністэрства замежных справаў Беларусі зрабіла днямі зварот да міністэрства гандлю ЗША з вымогамі прыпыніць антыдэмпінгавае расследаванне па пастаўках сталёвай арматуры Беларускага металургічнага завода, што месціцца ў Жлобіне, а таксама распачаць на гэты конт перамовы.

Як распавёў начальнік аддзела ЗША і Канады ў міністэрстве замежных справаў Ігар Губарэвіч, справа ў тым, што напрыканцы студзеня амерыканцы ўвялі часовую антыдэмпінгавую маржу на ўвоз у ЗША сталі з шэрагу краінаў. У тамтэйшым міністэрстве гандлю палічылі, што сталёвая арматура імпартуецца па заніжаных коштах, што нясе страты ўнутраным вытворцам сталі. Антыдэмпінгавыя захады, пад якія, апрача Беларусі, падпалі яшчэ Польшча, Латвія, Малдова, Украіна, Кітай, Паўднёвая Карэя і Інданезія, уяўляюць сабой завышэнне коштаў на неамерыканскую сталь пасродкам збору дадатковага мыта да заяўленага кошту прадукцыі. Беларусь, а гэта значыць, БМЗ, бо завод ёсць адзіным у краіне вытворцам сталёвай арматуры, мусіць плаціць 74% маржы (беларуская сталь прадавалася дагэтуль па 180-200 доляраў за тону). Але ад таго, што «амерыканская сталеліцейная прамысловасць знаходзіцца ў заняпадзе, і ЗША проста бароняць свой рынак», як зазначае І.Губарэвіч, «пацярпелі не толькі мы»: напрыклад, у дачыненні да Малдовы ўсталяваная маржа ў памеры 278%, Польшчы – 52%, Інданезіі – 71%, Украіны – 42%, Латвіі – 17%.

Гэтыя, так бы мовіць, штрафныя завышкі прынятыя на тэрмін 135 дзён. Увесь гэты час будзе праходзіць антыдэмпінгавае расследаванне, як завочнае, гэтак і непасрэднае – на месцы. Высвятленне таго, ці мела месца дэмпінгавая цэнавая палітыка, прадугледжвае адмысловае апытанне амерыканскім бокам замежных экспарцёраў сталёвай арматуры, у тым ліку і Беларускага металургічнага завода, па шэрагу эканамічных пазіцыяў, у прыватнасці, па памерах субсідзіравання галіны. Будзе вызначацца, якімі б былі кошты на беларускую сталь, калі б Беларусь была краінай з рынкавай эканомікай. Дзеля гэтага нашую металургічную прамысловасць параўнаюць з тайландскай. Магчыма, адбудзецца візіт амерыканскай дэлегацыі на сам БМЗ.

Калі дэмпінгавыя правіны Беларусі пацвердзяцца, маржа ў 74% ператворыцца з часовай у сталую, а разам з тым Беларускі металургічны завод пазбавіцца як мінімум на 5 гадоў права на продаж сталёвай арматуры ў ЗША. Гэта значыць, што амерыканскі рынак яе збыту будзе фактычна страчаны. А з ім – мільёны доляраў. Начальнік аддзела ЗША і Канады ў МЗС прывёў такія дадзеныя: у 1999 годзе жлобінскі металургічны завод прадаў у ЗША 72 тысячы тонаў сталі на агульную суму 12,3 мільёна доляраў, за першыя 7 месяцаў 2000 года (пастаўкі з ліпеня перапыніліся яшчэ да непасрэднага ўвядзення маржы) – 56 тысячаў тонаў на суму 10,2 мільёна рублёў. У 1998 годзе доля БМЗ ва ўсім аб'ёме паставак сталі з-за мяжы ў ЗША склала 2%, у 1999 годзе – 4%, у 2000 і 2001 па планах павінна было быць яшчэ болей...

Дзеля захавання прысутнасці Беларускага металургічнага завода на амерыканскім сталёвым рынку Беларускі МЗС пр[illegible]ваў міністэрству гандлю ЗША, у якасці выйсця ўстанавіць для БМЗ абмяжоўчыя штогадовыя квоты на ягоную прадукцыю, а таксама мінімальныя продажныя кошты. Цяпер і ў знешнепалітычным ведамстве, і на заводзе чакаюць адказу. ■

Рэдакцыя прапаноўвае сваім падпісчыкам аплаціць падпіску праз аддзяленні ААБ «Беларусбанка».

Для аплаты падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.

**Кошт падпіскі на адзін месяц 1040 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

*Рэдакцыя газеты прыносіць прабачэнні ААБ «Беларусбанка» за недакладнае пазначэнне банкаўскай паслугі.*

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

Форма № ПД-5

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» Сумма

Плательщик Пеня Всего

Кассир

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» Сумма

Кассир

Плательщик Пеня Всего

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

# Дзяржава пазбываецца непасільнага ёй цяжару

**Ірына САЗАНОВІЧ**

Сёлета ў краіне мяркуецца рэфармаваць 400 аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, у тым ліку 100 аб'ектаў рэспубліканскай і 300 — камунальнай уласнасці. Пры гэтым мэтай дзяржаўнай палітыкі ў галіне прыватызацыі павінна стаць кардынальнае павышэнне эфектыўнасці функцыянавання прадпрыемстваў і эканомікі ў цэлым. Пра гэта ішла размова 7 лютага на прэс-канферэнцыі з удзелам прадстаўнікоў міністэрства па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, прысвечанай ходу рэфармавання дзяржуласнасці ў Рэспубліцы Беларусь.

У міндзяржмаёмасці плануюць, што палова з аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці, вызначанай да рэфармавання на працягу года, будзе пераўтвораная ў адкрытыя акцыянерныя таварыствы або выкупленая арэнднымі калектывамі, а другая палова рэфармаваная шляхам адчужэння. З 300 аб'ектаў камунальнай уласнасці 80 будзе пераўтворана ў адкрытыя акцыянерныя таварыствы або выкуплена арэнднымі калектывамі і 220 аб'ектаў адчужаны.

Як адзначалася на прэс-канферэнцыі, дагэтуль у рэспубліцы рэфармавана 3.740 прадпрыемстваў, ці каля 25 працэнтаў ад іх колькасці. У тым ліку рэфармавана 832 аб'екты рэспубліканскай і 2.544 аб'екты камунальнай уласнасці. На іх базе арганізавана 1.351 акцыянернае таварыства, 1.312 прадпрыемстваў прададзены па конкурсе і на аўкцыёнах, 574 прадпрыемствы выкупленыя арэнднымі і 137 — працоўнымі калектывамі. На рэфармаваных аб'ектах працуюць больш чым 730 тысяч чалавек, ці звыш за 20 працэнтаў занятых у народнай гаспадарцы.

Ацэньваючы якасныя паказчыкі рэфармавання дзяржаўнай уласнасці ў мінулым годзе, першы намеснік міністра Аляксандр Блінкоўскі адзначыў, што ўзровень рэнтабельнасці працы акцыянерных таварыстваў па-ранейшаму вышэй, чым на дзяржаўных прадпрыемствах. Калі ў першых ён за 9 месяцаў 2000 года склаў 13,3 працэнта, то ў другіх — 12,8 працэнта. У акцыянерных таварыствах таксама вышэй тэмпы росту аб'ёмаў прамысловай прадукцыі: за год яны склалі 109 працэнтаў супраць 107,7 працэнта на дзяржаўных прадпрыемствах. У цэлым акцыянаваныя прадпрыемствы працуюць больш стабільна, чым дзяржаўны сектар эканомікі.

Прадпрыемства, якое застаецца ў дзяржаўным кіраванні, не павінна быць «цяжарам» дзяржаве. ■

БелаПАН

ТЭНДЭНЦЫІ

# Нават папугай кажа разумныя словы

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Як нам казалі, тая эканамічная мадэль, якую абрала для Беларусі яе кіраўніцтва, завецца сацыяльна арыентаванай. Каб было больш зразумела, патлумачым, што пры такім варыянце дасягненні робяцца не для дасягненняў (рапарта пра выкананне плана), а для самага што ні ёсць шарагова чалавека.**

Што яму патрэбна? Класік адказваў так: ежа, адзенне, жытло. Таму сёння засяродзім увагу менавіта на першаснай патрэбе, для задавальнення якой у краіне існуе асобная галіна прамысловасці — харчовая. Зразумела, што гэта праблема не надта складаная, бо кожны рашае яе штодня, суадносячы з цэнамі крамнага асартыменту магчымасці ўласнай кішэні. У апошні час задача гэтая нават спрасцілася, бо з'явіліся сасіскі, не кажучы ўжо пра вэнджаныя кілбасы, па цане і ў тры, і ў сем тысяч рублёў. Таму парой у краму нейкай там культпрасветдзяячцы або іншай асобе з бюджэтнай сферы і хадзіць не мае патрэбы: на яе заробак далікатэсаў не купіш. Але, зразумела, уласны вопыт недасканалы, бо занадта суб'ектыўны. Таму, каб пазбегнуць гэтых памылак, звернемся да статыстыкі, якая ведае ўсё.

І як толькі мы гэта зробім, адразу ж трапім на поле цудаў. Бо ўбачым, што фізічныя аб'ёмы прадукцыі харчовай прамысловасці скарачаюцца, а вартасныя, у супастаўных, як сцвярджаюць статыстыкі, цэнах растуць. Згодна з данымі мінстата, у мінулым годзе харчовая галіна вырабіла прадукцыі на 1,4 трыльёна рублёў, што ў супастаўных цэнах на 16% болей выраблёнага ў 1990 годзе, а ў натуральным выглядзе мяса выраблена 25,9% ад аб'ёму дзесяцігадовай даўнасці, цэльнамалочнай прадукцыі — 51,8%, жывёльнага масла — 40,3%, а крупаў — 15,8% (!). Нават выпечка хлеба скарацілася амаль удвая.

Ды і ўсяго іншага выраблена надта меней. Лягчэй пералічыць, чаго вырабілі больш: сасіскі, вэнджаныя кілбасы, цукар-пясок, гарэлка і лікёра-гарэлачныя вырабы, шампанскае. Чатыры пазіцыі. А ўсяго ў спісе прадукцыі пазіцыяў больш за 20.

Прыгадаем, што казаў хазанаўскі папугай, прыняты на службу ў заапарк: «Грамадзяне, у ежу тыгру не дакладаюць мяса». Па-іншаму нашы эканамічныя цуды нельга патлумачыць.

Дарэчы, папугая звалі Попка-дурань, бо паводзіў ён сябе не прадузята — гаварыў праўду. ■

# Этакая мессия,
## или Памяти президенту

**Юрий СВИРКО**

*Потрясая истин кладом*
*(и не глядя*
*на бумажку),*
*выступал*
*вчера*
*с докладом*
*сам*
*товарищ Лукомашко.*
*Начал*
*с комплиментов ярых:*
*Распластав*
*язык*
*пластом,*
*пел*
*о наших юбилярах,*
*о Шекспире,*
*о Толстом.*
***Владимир Маяковский, «Сердечная просьба», 1928 г.***

Да простят мне читатели сразу две ошибки в заголовке, но, как говорится, из цитаты грамматику не выкинешь. Даже неправильную грамматику, иначе это будет уже не цитата.

Поступая в 1991 году на журфак Белорусского государственного университета, я вытянул на вступительном экзамене по русской литературе билет с вопросом о творчестве Владимира Маяковского. Уже тогда, заняв 1-е место на Республиканской олимпиаде юных филологов всей Украины и имея право поступить безо всяких экзаменов на любой филологический факультет любого украинского университета, я был уверен, что знание Маяковского когда-нибудь пригодится, причем пригодится мне именно в родной Беларуси. И вот — 10 лет спустя — этот час настал.

В телепрограмме «Панорама» 1 февраля показали фрагмент выступления Александра Лукашенко на самом культурном совещании всех времен и народов:

***«И последнее. «Каб не знік народ» і гэтак далей. Не дождетесь. Белорусский народ — древний народ, он никогда не исчезнет с лица земли. Досужие, вредные, бестолковые домыслы. Наш народ жил, жив и будет жить, как говорит классик».***

Очевидно, под классиком подразумевался Владимир Маяковский, написавший 31 марта 1924 года стихотворение «Комсомольская». Правда, точная цитата из этой песни на смерть Владимира Ильича звучит так:

*Ленин — жил.*
*Ленин — жив.*
*Ленин — будет жить.*
*Ленин — жив*
*шаганьем Кремля —*
*Вождя*
*капиталовых пленников.*

Весьма печально, что господин Лукашенко говорит о моем белорусском народе в той же тональности, в какой Маяковский говорил о **мертвом** Ленине. Быть может, Лукашенко тоже считает народ уже мертвым? Или же глубинный смысл его ссылки на классика кроется в продолжении цитаты из Маяковского — мол, белорусский народ жив шаганьем Кремля? Причем в современной трактовке, то есть с намеком на засевших там олигархических пленников?

Однако не будем о политике. Поговорим о русском языке. Так уж вышло, что я, чистокровный белорус, учился говорить и думать на русском. Учился в Германии, в Казахстане, на Украине и в Латвии. Я никогда не жил на исконно русских землях, но это не мешает мне считать себя носителем русского языка.

Смею заметить, что хорошо знаю белорусский. И ситуацию, в которой этот прекрасный язык оказался в Беларуси. Но сегодня я пишу статью в защиту русского языка. Слава Богу, в России ему ничего не угрожает. Угроза русскому таится в Беларуси. Но исходит эта угроза не от «националистов», а от «интернационалистов».

Кстати, вы не обращали внимания, что московские газеты и телеканалы, поначалу перешедшие к употреблению слов «Беларусь», «Кыргызстан», «Татарстан», «Башкортостан» и т.п., затем вернулись к «Белоруссии», «Киргизии», «Татарии», «Башкирии», а недавно опять стали писать и говорить «Татарстан» и «Башкортостан», но при этом «Белоруссия» и «Киргизия»?

Хочется сказать ревнителям «Беларуси»: радуйтесь, что Москва не считает Беларусь таким же российским регионом, как Татария или Башкирия. Белоруссия — значит заграница. Беларусь — значит субъект федерации. Примечательно, что минский официоз кричит о «Союзном государстве Беларуси и России», а Москва упорно твердит о «Союзе России и Белоруссии». Это означает лишь то, что никакого союза или союзного государства нет. И это должно только радовать белорусов-патриотов.

Тем не менее в проблеме «Беларусь или Белоруссия?» отразилась проблема статуса русского языка — является ли он единственным государственным языком Российской Федерации или же всего лишь одним из двух государственных языков Республики Беларусь? И может ли официальный Минск диктовать свои правила русского языка?

На прошлой неделе стало ясно, что может. Александр Лукашенко заявил, что считает русский язык своим. К этому его утверждению я еще вернусь чуть ниже, но начнем мы с самого начала. Мы вместе проанализируем письменный (!) вариант его доклада на совещании «О мерах по решению проблем развития культуры и искусства», приводя цитаты «в порядке поступления». И вы убедитесь, что это не русский язык!

***«То ест, мы не шли на какие-то бездумные, спонтанные реформы, пока не проводили мозговую атаку на те или иные проблемы. И мы это делали коллективно».***

Нормальный человек, прочитав эту фразу, сделает вывод, что они коллективно шли на бездумные и спонтанные реформы только после мозговых атак. Вместо комментария стоит привести следующую цитату из доклада:

***«Цивилизованная экономика нам нужна, а таковую создаст только высококультурный, образованный человек».***

А далее следует чуть ли ни феня с «разборками»:

***«Сегодня можно уверенно сказать — мы подняли культуру из развала, вытащили ее из политических разборок и поставили в центр государственной социальной политики».***

Затем господин Лукашенко говорил о белорусском языке:

***«Под крики аб заняпадзе беларускай мовы они начали разрушать сложившийся нормативный, единый литературный белорусский язык. Стали растаскивать его по регионам, по местечковым диалектам, засорять полонизмами и неграмотными переводами-кальками из других неславянских языков».***

Получается, что польский — уже не славянский язык? Ибо после полонизмов идут кальки из «других неславянских языков». И что, из славянских языков неграмотные переводы допустимы?

***«Работа академических институтов, филологических факультетов многочисленных вузов, издание энциклопедических словарей и справочников, книги, газеты и журналы, радио и телевидение — все это стимулирует расширение сферы и развитие белорусского языка».***

Насчет «Белорусского» телевидения и радио — сильно сказано. Видимо, Лукашенко не заметил, что служащие подчиненной ему телерадиокомпании с каждым днем все больше переходит на, как им кажется, русский язык. В нормальной стране «расширение сферы» произносят еще и с третьим словом «употребления», а стимулируется оно прежде всего органами власти, не говоря уже о первых лицах государства.

***«Веками так складывалось, что на нашей земле мирно и плодотворно уживались и уживаются два родственных языка. И ни один из них от этого не пострадал».***

И это говорит историк по образованию, который будто бы не знает о политике насильственной русификации при царизме и при советской власти. А как быть с идиш? Тоже ведь веками уживался. И первоначально в БССР было не два, а четыре государственных языка — белорусский, русский, польский и еврейский.

***«Мы не позволили разрубить по живому кровеворную систему белорусско-российского духовного братства».***

А вот вам и ответ историка на уживчивость. Кровеворный – это, пожалуй, когда много крови пускают? До сих пор все говорили о кровеносной системе. А нынче неологизм придуман.

***«Я всегда говорил, что русский язык для нас не чужой. На протяжении долгих лет мы вместе с братским русским и другими народами формировали этот язык».***

И деформировали.

***«Мы вложили в него частичку своей души. И мы не имеем права и не должны отказаться от этого языка ради будущего своих детей и внуков. Иначе лишим их эффективного инструмента общения и добывания знаний».***

Возможно, он хотел сказать, что общение по-белорусски неэффективно. Як той казаў, на белорусском нельзя выразить нечто великое. Но тот же человек сказал, что в мире есть два великих языка — русский и английский. Если имеется в виду общение с другими народами, то на английском ведь общаться гораздо эффективнее, правда?

***«Кто-то, возможно, будет возражать и даже критиковать меня за то, что сегодня я выступаю на русском языке. Но это мое, как и ваше, право выступать на этом совещании на любом из двух государственных языков — на русском или на белорусском. Пожалуйста, говорите на том языке, на котором вам удобней и на котором вас понимают, если вы хотите, чтобы вас понимали».***

Последняя фраза звучит как угроза: вот я на «русском» говорю — и вы говорите, чтоб я вас понял.

***«Увеличен контингент детских школ искусств всех типов».***

Контингент — так еще никто о художественных школах не выражался.

***«Для справки сказать, что в настоящее время в Беларуси работает свыше 13 тысяч учреждений культуры и искусства».***

Для справки скажу, что это выглядит как помета для докладчика на полях его гениального текста.

***«Активизировалось концертное обслуживание населения».***

Еще один образчик советского канцелярита.

***«Только в 2000 году 3.500 мастеров искусств с большим успехом выступили в 16 зарубежных странах».***

Читатель сразу представляет себе, как три с половиной тысячи человек вместе объехали 16 стран.

***«Открою секрет. К примеру, в качестве доброй памяти мне как Президенту хочется оставить новое, современное здание Национальной библиотеки. (Аплодисменты)».***

По-русски это было бы «в качестве доброй памяти обо мне как о президенте» либо «доброй памяти о себе мне как президенту хочется». Но ведь в Беларуси свой «русский» язык!

***«Но я хотел бы сказать еще об одной категории людей с ружьем, если можно их так назвать. О политических работниках Красной и Советской Армии. Политруком батареи воевал Иван Мележ. Политруком зенитного расчета был в годы Великой Отечественной войны Иван Шамякин, которому я недавно вручил высокую государственную награду».***

Казалось, после трансляции по ОРТ и НТВ слова «ружжо» в исполнении господина Лукашенко ничего более гениального придумать нельзя. Но бывший политработник Владимир Заметалин не удержался от соблазна вставить пару слов про себя хотя бы между строк доклада.

***«Конечно, есть единицы, которых и армейское, даже боевое прошлое не спасло. Конъюнктурное политиканство буквально испепелило их незаурядные способности. И они сегодня годны лишь на сочинение примитивных политических агиток. Они обзывают народ, издеваются над героизмом отцов и дедов в годы Великой Отечественной войны, опошляют славную боевую и трудовую историю. Готовы лишить нас права на выбор самостоятельного пути развития. Кричат, ляментуюць, лишь бы их мир услышал. И в то же время себя возводят в ранг духовных апостолов нации, ЭТАКОЙ МЕССИИ, а заодно требуют от государства и унижаемого ими народа особо повышенных знаков внимания, как в материальном отношении, так и в виде различных наград и званий, грантов. Не парадокс ли это?»***

Парадокс в том, что «Советская Белоруссия» успела исправить слова «этакой мессии» на «этакого Мессии», зная, что мессия относится к мужскому роду. А вот газета «Рэспубліка» оставила все как было. Но весь официоз пропустил «особо повышенные знаки внимания». Это, наверное, когда ордена вешают не на грудь, а на лоб. Прежде в русском языке были «знаки повышенного внимания». А в новом русском языке «гранты» – это как раз помощь в материальном отношении. Что же тогда имел в виду под грантами Лукашенко, противопоставляя их «материальному отношению»?

***«Позволит защитить культурное наследие и современное духовное богатство всей нашей славянской цивилизации от негативного воздействия глобализации, а точнее, от американизации».***

По поводу славянской цивилизации написано уже много. Но впервые поставлен знак равенства между глобализацией и американизацией. И знаете, что любопытно — американизация принесла в наши славянские языки и постсоветские государства такое слово и явление, как ПРЕЗИДЕНТ. Не призывает ли Лукашенко отказаться именно от этого?

***«Белорусский балет — выдающееся явление в современном национальном искусстве. Небывалый взлет и признание белорусского хореографического искусства на международной арене связано с именем художественного руководителя театра, балетмейстера, народного артиста СССР Валентина Елизарьева. В последние годы широкую известность получили спектакли режиссера Николая Пинигина, драматурга Алексея Дударева».***

Взлет балета на арене – это посильнее «Фауста» Гете! Только непонятно, почему в абзац про балет попали Дударев и Пинигин.

***«Ну а выборы пройдут цивилизованно, так, как хочет белорусский народ. Конечно же, я это говорю в шутку, но в этой шутке много правды. Почти вся правда».***

Эта цитата — не просто перл, не только бриллиант мысли 2001 года, а самая что ни на есть оговорка по Фрейду.

***«Уважать Конституцию, наши государственные символы. Казалось бы, это элементарные обязательные нормы для каждого цивилизованного человека».***

Действительно. Я тоже так думал накануне референдумов 1995 и 1996 годов.

***«Однако именно в творческой среде бывают этакая бравада и потуги революционных изменений государственного строя».***

Потуги изменений! Умри – лучше не напишешь.

***«Мы никому не отдадим эти завоевания. Не поступимся добытым, построенным, выстраданным и завоеванным ни на вершок! На том стояли, стоим и стоять будем!»***

В смысле – на вершке стоим?

Как говорил классик (Нина Андреева), я тоже не могу поступиться принципами. И не могу согласиться, что все ЭТО – русский язык. Это НЕРУССКИЙ язык. И на месте Лукашенко я бы уволил всех спичрайтеров и стильредакторов, которые подсунули ему и государственным газетам этот бессмертный текст.

Бессмертный, ибо служит примером того, КАК НЕЛЬЗЯ ГОВОРИТЬ ПО-РУССКИ.

Бессмертный, как предугаданный гениальным Маяковским 73 года назад товарищ Лукомашко (созданный поэтом из фамилий Луначарского, Когана и Семашко).

Бессмертный? ■

# Загасла зорка паэта

**Пятрусь КЛІМКОВІЧ**

На 88-м годзе жыцця скончыўся жыццёвы шлях выдатнага беларускага паэта Масея Сяднёва. Яму выпала зведаць на сваім вяку шмат пакутаў. 20-гадовым юнаком у час навучання ў Мінскім педінстытуце Масей Сяднёў быў асуджаны за вольнадумныя размовы і сваю паэзію як «нацдэм»і сасланы на Калыму, дзе чатыры гады правёў за дротам сталінскага канцлагера. Напярэдадні вайны яго прывезлі на перагляд справы ў Мінск, што тады азначала новы тэрмін пакарання ці «вышэйшую меру». Трымалі вязня ў турме на Валадарскага. Суд быў прызначаны на 26 чэрвеня 1941 года. Пасля бамбавання Мінска немцамі ў першыя дні вайны ўсіх зняволеных пагналі за 60 вёрстаў у Чэрвень. Тут у мясцовай турме зняволеных падзялілі на палітычных і крымінальнікаў. Апошніх адпусцілі па дамах, а палітычных адвялі ва ўрочышча Цагельня і расстралялі. Цяпер на тым месцы стаіць памятны крыж.

Дзякуючы лагернаму вопыту, які падказаў Сяднёву стаць у шэраг крымінальнікаў, бо да іх савецкая ўлада ставілася не гэтак варожа, як да «нацдэмаў», ён застаўся жывы. Пасля вайны



Сяднёў жыў у Нямеччыне, потым перабраўся ў Амерыку. Толькі ў 1992 годзе, праз пяцьдзесят пяць гадоў пасля рэпрэсіўнага прыгавору, паэт быў рэабілітаваны дзякуючы настойлівасці сваёй сястры, якая жыве ў Касцюковічах. З таго дня ён тройчы прыязджаў на Бацькаўшчыну.

Жыў Сяднёў у ЗША. Тут выйшлі яго зборнікі паэзіі — «Патушаныя зоры» (успаміны пра маладосць і сталінскія лагеры), «Ачышчэнне агнём» (пра выгнанне і радзіму), «А часу больш, чым вечнасць». Яшчэ Масей Сяднёў пісаў прозу і публіцыстыку.

Памёр Масей Сяднёў 5 лютага ў горадзе Гленкоў непадалёк ад Нью-Йорка.

Вечны яму спакой. ■

